№ 7 RM 0.50

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ БІБЛІЯТЭЧКА



# ДУДАР

АПАВЯДАНЬНІ

БЕЛАРУСКАЯ
НАРОДНАЯ БІБЛІЯТЭЧКА VINETA

ТОМІК 7

# ДУДАР
## І ІНШЫЯ АПАВЯДАНЬНІ






ВЫДАНЬНЕ
ФРЭМДШПРАХЭН-ФЭРЛЯГ
БЭРЛІН-ШАРЛЁТТЭНБУРГ 2

В. ЛАСТ

# Дудар

Памёр стары Дудар, вясковы музыка, і душа ягоная, узяўшы дуду за пазуху, пайшла ў неба.

Падыйшоў ён да неба — глядзіць: зачынена.

— Ну, — думае, — сьпяць.

Сеў на калодачку каля брамы й чакае дня. Доўга сядзеў і стала яму маркотна. Дастаў з-за пазухі дуду, папробаваў пішчык і давай памаленьку йграць. Пярвей ціха, пасьля ямчэй, а там і падпяваць пачаў.

Ажно чуе з-за брамкі:

— Хто там?

«Мабыць, сьвяты Пётра», — падумаў Дудар, але адказвае сьмела:

— Я!

— Хто «я»?

— Дудар!

— Чаго горла дзярэш?

— Зусім не дзяру, — пяю.

— Каб цябе... А чаму-ж гэтак позна прыйшоў?

— Ніяк нельга было раней: памёр пад самы вечар.

— Пад вечар? — зьдзівіўся за брамай. — Дык на добры лад табе трэба было-б яшчэ на палавіне дарогі быць.

— Ага, сьвяты Пётра, я дасужы — беларус, ведама.

— А адкуль ты? З-пад Барысава?

— З таго боку.

— А зь якой вёскі?

— Ды хоць і скажу табе, ты-ж усёроўна ня ведаеш.

— Кажы, кажы — я ўсё ведаю.

Сказаў Дудар і вёску.

— Як тваё імя? — дапытваў далей голас.

— Янка.

— А на прозьвішча?

— Дудар.

— Ну, добра, Янка Дудар, пакуль разьвіднее, пабудзь каля брамы, ды глядзі, не гамані тут.

Стаў Дудар дня чакаць. Сядзеў, сядзеў, — ізноў маркотна зрабілася, да таго-ж перад раніцай холадам пацягнула, хоць гэта й лета было. Ізноў дастаў ён сваю дуду, ледзь-ледзь наігравае, каб за брамай не пачулі.

Зірк — а на частаколе нейкія галоўкі паказаліся: адна, другая, трэйцяя . . . Анёлчыкі.

— Слухайце, слухаўце, — кажа адзін, — вось хораша грае!

Тут ужо Дудар ня вытрываў і пачаў іграць на ўвесь голас.

— Ах, як хораша! Вось хораша! Што гэта за музыка такая? — дзівуюцца анёлчыкі.

— Гэта барысаўская, — сказаў Дудар. Раптам загрымелі ключы ў замку, і адчынілася брама. У браме стаяў нябескі ключар, сьвяты Пётра.

— Дудар!
— Чаго?
— Пойдзем!

А на небе ўжо разыйшлася пагаласка, што прыйшоў музыка зь Беларусі й дужа хораша йграе на дудзе. Дайшло гэта й да Самога Бога, каторы, выйшаўшы з пакояў, сеў на ганку халадавацца: за работу ня браўся, бо нядзеля была.

Не пасьпелі Дудару кватэру азначыць, як прыйшоў па яго анёл, толькі не такі, як папярэднія — маленькія, у белых кашульках, зь белымі крылачкамі, а вялікі, у сярэбранай адзежы.

— Янка Дудар, — сказаў пасланец.
— Што, паночку?...
— Праўда, што ты ўмееш іграць?
— Праўда.
— А пайграў-бы?
— А чаму-ж не пайграць! Перад кім?
— Перад Богам сьвятым!

Пачухаў Дудар патыліцу, ды ня доўга думаў. Барысавец быў, а ўсе барысаўцы — народ сьмелы.

— Пайграю, — кажа.

— Ну, дык пойдзем, — кажа анёл.

Пайшлі. Анёл сьпераду, Янка ззаду. Глядзіць, дзівуецца.

Абапал дарогі сярэбраныя хаты, а жывуць у іх сьвятыя. У канцы вуліцы пабачылі Самога Бога, каторы сядзеў на ганку й чакаў.

Дудар далікатненька пакланіўся — быў ён чалавек бывалы й ведаў, як дзе трэба захавацца. Бог кіўнуў галавой.

А кругом ужо сабраліся анёлы, малыя й вялікія, арханелы ў залатых і сярэбраных адзежах, сьвятыя й проста так справядлівыя душы, мужыкі й бабы. Народу цьма — яблыку нейдзе ўпасьці, і ўсе хочуць паслухаць музыкі.

— Ну, Дудар, — сказаў Бог, — іграй.

А Дудар ізноў пакланіўся й кажа:

— Пакорна кланяюся Вяльможнаму Пану Богу й выбачайце, што я спытаю: ці няма тут на небе каго-небудзь з нашых, барысаўскіх, — толькі, каб з маладых?

— А нашто табе?

— Пад танцы йграць лаўчэй!

Усьміхнуўся Бог і даў знак анёлам. Паляцелі двое, але скора вярнуліся, кажуць:

— Знайшлі двох барысаўцаў, толькі дужа старых.

— Старыя няздатны, — сказаў Дудар, — не патрапяць станцаваць. Выбачайце, што спытаю: куды-ж падзеліся маладыя? І маладыя-ж іншы раз паміраюць.

А сьвяты Юр'я на гэта кажа:

— Маладых трэба ў чысцы шукаць.

— А й гэта праўда, — сказаў Дудар, — ня йначай, як у чысцы. Пэўне, што ў чысцы. На маёй памяці колькі таго народу перамерла: Мікіта Гарбуз — той, што ад гарэлкі задохся, Сьцяпан Крук з Докшыц, катораму ў карчме лоб пашчапалі. Арцём Лука з-пад Зембіна й Антось Прычэпка з-пад Дзядзілавіч, — добрыя танцоры былі: прыбілі іх на йгрышчах.

Дудар доўга яшчэ-б вылічаў памерлых маладымі барысаўцаў, але Бог кіўнуў рукой:

— Іграй!

— Якую?

— Якая лепшая, вясёлую!

— Вясёлую, дык вясёлую! . . .

Настроіў Дудар пішчыкі, надзьмуў мех, зайграў.

Добра ці дрэнна йграў ён, не памятаў гэтага, гэтак захапіла ў яго дух ад радасьці, што годзен стаўся йграць перад самым Богам.

Толькі, калі кончыў, бачыць — Богківае галавой: здаволены. А анёлы й сьвятыя, дык тыя не нахваляцца.

— Ах, як добра! Вось дык добра!

І калі Бог пайшоў у свае пакоі, яны пачалі прасіць Дудара, каб яшчэ пайграў, пасьля папяяў. А музыка й рад гэтаму: іграе ды пяе так, што па ўсім небе гул раздаецца. Слухалі, слухалі справядліўцы, а пасьля й самі пачалі падпяваць: сьпярша ўпаўголаса, а пасьля й ад Дудара не астаюцца:

Ах, ты дудка мая,
Ух — я!

Весялі ты мяне,
Ух — я!

На чужой старане,
Ух — я!

Пяюць усім небам, падбіваючы ў далонкі.

Праходзіў міма сьвяты Язэп. Глядзіць, што за дзіва?! Заместа арханела Гаўрылы, каторы навучаў справядлівыя душы нябесных сьпеваў, сядзіць на ўслоне Дудар з дудой, а каля яго душы — мужчынскія й жаноцкія — хорам пад хватваюць сьвецкія песьні.

— Матухна ты сьвятая! — крыкнуў сьвяты Язэп, схапіўшыся за галаву, і пабег да сьвятога Пётры.

А туды якраз прыйходзіць і сам Арханел Гаўрыла, гэтаксама жаліцца.

— Так і так, — кажа. — Ніхто ня хоча вучыцца нябесных сьпеваў; усе пяюць беларускую «Дудку». Дудар вучыць. Што рабіць?

Выйшаў Пётра на вуліцу, прыслухаўся, — праўда: па ўсім небе лунаюць беларускія песьні.

— Гэтага нельга дазволіць, — кажа тады сьвяты Пётра арханелу Гаўрыле. — Ці не паклікаць нам Дудара?

— Можна.

Ідзе Дудар, дуда пад пахай; пакланіўся.

— Дудар, кажа сьвяты Пётра, — а ці ня лепей было-б табе пайсьці адгэтуль куды-небудзь у другое месца?

— Зь неба?

— Ну, ведама.

— А куды-ж мне йсці?

— Гм! аб гэта-ж: куды? — Сьвяты Пётра задумаўся. .

— Чаму-ж вы хочаце, каб я адгэтуль пайшоў? Я-ж нічога благога не зрабіў тут: ня ўкраў, ня скрыўдзіў . . .

— Ведаю, ведаю . . . Справа, братка, вось якая: на небе сьвецкія песьні пачалі пяяць, — сам ты рассудзі — ня гожа.

— Ну, што-ж, калі гэтак, то я пайду сабе.

— Толькі вось бяда — куды цябе адправіць . . . А можа дуду кінеш?

— Не, лепей я пайду ўжо адгэтуль.

— Куды-ж пойдзеш?

— Я знайду сабе месца. Пайду туды, адкуль прыйшоў.

— У Барысаўшчыну?

— А то куды-ж?

— А я думаў на якую колечы зьвязду цябе паслаць!

— Нашто на зьвязду?! Пайду ў Барысаўшчыну.

— Зусім із раю?

— Э..., што там рай! Наша Беларусь — гэта ня неба. На Беларусі бязь песьні нельга. Там людзі працуюць, а зь песьняй чалавеку ўсякае гора ў палавіну. Буду хадзіць із сваёй дудой па лясох і палёх. Будзе сядзець каля скаціны пастушок із жалейкай — нячутна падыйду да яго й зайграю яму над вухам; пачне пяяць дзяўчынка, задумаўшыся над сьветлым ручаём, навучу й яе — няхай не заміраюць Беларусі песьні. Пойдуць мужыкі з тапарамі ў лес, я прытаюся за соснай і зайграю ім, каб спарней ішла ў іх работа. А не знайду людзей — буду слухаць, як шуміць цёмны бор, як бульчыць вада, пераліваючыся ў ручаі й падыйграю ім. Эх, цяжка ў нашай старонцы, ды й добра ў ёй... Я яшчэ, як жыў, дык прасіў Бога, каб дазволіў мне па сьмерці ў Барысаўшчыне застацца. На ніякі рай не прамяняю яе.

— Ну, добра, калі так, ідзі сабе з Богам, — сказаў сьвяты Пётра, — а то ты ўсё неба нам папсуеш. Толькі-ж глядзі, ня крыўдуй!

— Якая тут крыўда?!

Пакланіўся Дудар апосталу й выйшаў з райскіх варот на вялікую нябесную дарогу. Была ноч.

Стаў Дудар спушчацца па птушынай дарозе ўніз. А калі пачуўся на волі, крыкнуў:

— Гэй, гэй! — і пачаў дзьмуць з усёй моцы ў дуду.

І гэтак ішоў ён, усё ніжэй, спушчаючыся ў барысаўскі бок, пакуль не схаваўся ў пушчы...

М. ГАРЭЦКІ

# Паншчына

## I

Князь забіў на ловах пару вялікіх ласёў. Вясёлы, здаволены, ажыўлена гамонячы з гасьцямі, вярнуўся ён дамоў і заказаў кухару засмажыць адменнага зайца, забітага ўчора лоўчымі ў пушчы.

Тлусты, чырвоны той заяц ужо ляжаў на стале ў пякарні, і кухар жыва завінуўся ля яго.

Умельствам кухара ганарыўся сам князь і часта хваліўся гасьцём, што другога такога кухара ўва ўсім краі няма.

Кухар гэта ведаў і стараўся паддзержваць сваю славу.

Сягоньня ён асабліва стараўся: князь вярнуўся вясёлы, госьці рагочуць, абед будзе з паляўнічай выпіўкай, — можна й гасьцінца спадзявацца ад іх, а князь назаўтрае пахваліць і добрым часам дасьць чарку гарэлкі.

А не дагодзіш — бяда: зараз пацягнуць гайдукі на стайню й так адсмаляць раменнымі бічамі, што цэлы тыдзень ані сядзеш, ані ляжаш. Быў адзін выпадак (кухар засмуціўся спомніўшы): перасаліў ён стравы, і князь сам, сваёй цяжкой

рукой, так ударыў яго два разы поўху, што й цяпер яшчэ ў дрэнную пагоду з вуха гной цячэ. З гэтае прычыны кухар заўсёды насіў у вуху кавалачак мяккой ваты й дрэнна чуў. І ці мала было такіх выпадкаў, што забіў-бы яго злосны князь да сьмерці, ці здаў-бы ў салдаты, каб не даражыў ягонымі залатымі рукамі й тонкім кухонным смакам. Пасьля калецтва прыкра было відзець князю кухара з заткнутым вухам, і ён ніколі ўжо ня гукаў яго на нараду аб стравах да сябе, а пераказваў праз стольніка.

Ды сяньня князь быў у гэткім нязвычайным гумары, што першы раз захацеў сам пагаманіць зь ім аб спосабе смажаньня зайца.

Калі хлопчык-гайдучок прыбег з палацу ў пякарню (яна зьмяшчалася водаль, у васобным, адумысным будыначку), калі ён, запыханы, крыкнуў кухару: «Дзядзьку, яснавяльможны кліча да сябе... баржджэй!» — у кухара затрэсьліся ад неспадзеўкі рукі й зазьвінела ў хворым вуху. Ён ня ведаў, пужацца ці радавацца яму? Падняў уронены ручнік, абцёр з рукі зайцаву кроў і рупліва пагладзіў лысіну й падкруціў вус.

— «Піражка... піражка, Янучок!» — саромліва, без раўнавагі, зашаптаў ён гайдучку, агледзіўся наўкол, каб хто ня відзеў, схапіў з духоўкі румяны піражок і ўсунуў хлопчыку ў кішаню за добрую вестку. Хлопчык быў рад, пагладзіў вялізарнага адгадаванага ката, князёвага ўлюбенца, што прыбег за хлопчыкам з пакояў, і паганяў дзядзьку: «Баржджэй, баржджэй! Чакае.» І зараз памчаліся: хлопчык наперадзе, а кухар сьледам, на хаду спушчаючы засуканы рукаў.

Толькі мышасты кот застаўся, за недаглядам зачынены ў кухні. Ён важна пахадзіў па стале, панюхаў зайца, потым глянуў праз адчыненыя дзьверы ў чорны прыкухоньнік, дзе два малодшыя кухары, судамой і хлопчык-дрыванос рабілі сваю работу.

Кату прыемна засьвярбела ў носе, ён глыбака пацягнуў пах ад вялізнае гарачае пліты, на якой бязь ліку стаяла рознага судзьдзя з гатаванымі стравамі, клубілася з катла пара, клакатала вада, сіпелі скавародкі, трэскалі дровы ў печы. Але бліскаhьне на паліцах сотняў мядзяных рондляў усялякай вялічыні, ад самага большага ўвелькі з цэбар да самага малюсенькага з катову галаву, — не спадабалася яму. Там былі адчыненыя другія дзьверы й скрозь іх цягнуў холад, можна было выскачыць на двор, але пануры выгляд кухароў, асабліва-ж хлопчык-дрыванос зь вяроўкаю ў руках — не спадабаліся князёваму ўлюбенцу, і ён пайшоў, задраўшы тоўсты хвост, назад. Вучоны да ўсякіх штукаў, кот падскочыў, ударыўся ў клямку й рашчыніў дзьверы. У сенцах узьлез на паліцу й настаражыўся: пачуў скрабаньне ў скрынцы з крупамі.

Тымчасам у дзьверы вытыркнуліся з надвор'я морды двух хартоў — тонкіх, як вужакі, сагнутых дугою. Адзін зь іх пацягнуў носам і зараз зьнюхаў зайца. Мякка, нячутна падыйшоў да стала, задраў войструю морду, схапіў у шырачэнную зяпу зайцаву галаву й шмыгнуў з сваім радым сябрам на двор у хартоўню.

Усьцешаны варочаўся назад галоўны кухар: князь зь ім быў дужа ласкавы й нават даў пацалаваць сабе ў руку.

Але колькі ўжо выпадкаў было ў гісторыі, што з самае вяршыні шчасьця чалавек раптоўна звальваўся ў самае прадоньне плачу й адчаю.

Шчасьлівы кухар, праходзячы міма хартоўні, пачуў у пуньцы хрустаньне, чаўканьне й ціхае вурчэньне... Харты штось пажыралі!

Хто ня мае веры ў прадчуцьці, той, мабыць, гора не зазнаў ніколі ў сваім жыцьці. Кухар моў яго даволі за свой марны век, і сэрца ў яго ёкнула: ці ня зайца жаруць праклятыя сабакі, падобныя да чартоў?

Угрунь пабег ён да свае кухні, ускочыў, падбег да стала: зайца няма! Болем пеканула ў кухарава сэрца. Ён кінуўся ў прыкухоньнік, шыбка агледзеў усё і ўсіх. Зайца ня было, і кажны спакойна займаўся сваёй работай. Як-бы за якой справай, выйшаў кухар ізноў на двор і марудна, прыціснуты няшчасьцем, паплёўся міма хартоўні, асьцярожна спаглядаючы ўбок на сабачыя пунькі. Вось паказалася з аднае хартовая галава: морда ў крыві, вочы заплылі платаядным здаваленьнем і ў зубох штось тырчыць... Хорт аблізнуўся, і зь зяпы выпала заячая лапка!

Кухар панура паплёўся назад.

Увайшоўшы ў сенцы, прастояў там, як няпрытомны, і мімаволі задраў галаву, шукаючы крука, дзе-б павесіцца.

І тут яшчэ трэба сказаць, што чалавек ніколі ня ведае, дзе згубіць, а дзе знойдзець. І няма такой злыбяды на сьвеце, на якую-б ня ўсьміхнуўся неспадзеўкі нечаканы ратунак.

У вочы кухару кінуўся ляжачы на паліцы кот — вялікі, адгадаваны, мякенька-пушысты, як той заяц.

Адчайная думка пранізала кухараў мозаг, і ён паманіў князёвага ката к сабе выстаўленымі пальцамі. Кот прыжмуранымі вачыма зьмерыў постаць старшага кухара, важачы ягоную вартасьць у кацiных вачох. Ад кухара прыемна пахла, вочы ў яго былі пакорна ласкавыя, і кот патрошку, важна стаў падыходзіць да выстаўленых пальцаў. Як толькі ён даткнуўся іх сваёю гладкаю, шаўковаю шэрсткаю, пальцы зь дзікай зьнявагаю абхапілі ягоны карак і пацягнулі ў паветра. Кот захлынуўся ад шалёнай злосьці й крыўды. Абдумаўшыся, ён люта ашчэрыў зубы, заглабаў кіпцямі й закруціў хвастом: абраз князя стаяў у выкачаных з галавы ачовых яблыках і напаўняў кацінае сэрца зласьлівай радасьцяй бясьсільнага, што ворагу князёвага ўлюбенца будзе лютая кара за гэты зьдзек. Ды пальцы сьцягнулі ягоны карак мёртваю пятлёю й несьлі ў брыдкім паветры да дзьвераў прыкухоньніка. Калі дзьверы за людзьмі зашчапіліся на чэп, у вольнай руцэ адзінокага кухара бліснуў вялізны, жудасны кухонны нож. Кот сабраў астаткі сілаў, сударажна йрвануўся й згубіў прытомнасьць. Гарачая кроў палілася зь ягонага парэзанага горла, і наступіла вечнасьць.

У вадзін мамэнт садраная скурка была кінута ў дальні кут пад печ, а чырвоны, тлусты аблуплены катовы труп з адсечанай галавою ляжаў, як добры адменны заяц, на стале. Кухаравы рукі набраліся цьвёрдасьці, сэрца патроху сьціхла калаціцца, і кухарская работа закіпела. Час-адчасу кухар шаптаў «Войча», хрысьціўся, абціраў пот, але маўкліва, старанна смажыў, перчыў, паліваў . . .

## II

Першы раз за ўсё жыцьцё еў князь і ягоныя госьці такога смачнога зайца.

— Вось заяц — дык заяц! — хвалілі госьці, — пальчыкі аблізаць.

Князь прыемна ўсьміхаўся й часам нават каяўся, нашто калісьці ў страшным гневе скалечыў кухара.

— Заяц добры, але й кухар мой ня горшы, — хваліўся ён: — граф Зібэр-Плятэр суліў мне летась за яго трыста злотых, ды я й за тысячу не аддам: мяркуйце, панове, самі: залатыя рукі, што?

Гутарка ўзьбілася на залатога кухара, і падвыпіўшы, госьці захацелі паглядзець на яго. Паслалі гайдука ў пякарню, каб прывёў.

— Скуль, яснавяльможны, дастаў яго? — пытаўся граф Бжастоўскі, ведамы ў сваім часе на ўсю Рэч Паспалітую дуэлісты й забойца аднаго В-га ксяндза.

Хто чытае старыя кнігі, той ведае аб гэтым скандальным забойсьцьве графам жартаўліваго ксяндза, былога ягонага духаўніка й таварыша. Для няведаючых — кароценькая спраўка. Ксёндз быў з дробнай шляхты й за чаркай мёду любіў, па жартаўлівасьці свае натуры, пасьмяяцца над важнымі тытуламі. Аднойчы, госьцячы ў графа ў Бжаставіцах, у цеснай выпівацкай кумпаніі, у якой быў і граф, ксёндз гэты расказваў ведамую беларускую лягенду аб паходжаньні князёў і графаў.

«Калі Бог тварыў людзей, дык кандыдатаў на князёў і графаў ён памазаў маслам. А нейкі падла-сабака, смакуючы масла, прыбег і зьеў

памазаных. Загневаны Бог схапіў яго за хвост і пачаў трэсьці. З-пад хваста пасыпаліся кандыдаты, і які зваліўся пад вішню, зрабіўся князь Вішнявецкі, каторы пад асіну — граф Асіноўскі, а той, што пад бярозу, той граф Бжастоўскі, пабеларуску Берастоўскі» . . .

Шалёны граф, самалюбны ў тытульных справах, прымусіў свайго духаўніка тут-жа, у габінэце, стаць зь ім на паадзінак і забіў зь пісталета перабраўшага мерку хмельнага ксяндза, за што мусіў на нейкі час нават уцячы ад каралеўскага суда за межы Рэчы Паспалітай.

— Скуль, яснавяльможны, дастаў яго? — спытаўся ў князя аб кухары гэты самы граф Бжастоўскі.

— Мой падданы . . . тутэйшы. Ні ў Парыжы, ні ў Варшаве ня вучыўся, — мабыць, із кухонным геніем радзіўся.

— Што-ж так доўга не вядуць генія сюды? — запытаўся адзін пануры стары пан.

Князю не спадабаліся гэтыя словы, ён нахмурыўся й паслаў другога гайдука. Той ведаў князеў гнеў і памчаўся, як страла.

Тымчасам з кухарам рабілася няма ведама што. Першы пасланец, зьдзіўлены, нерашучы, стаяў над ім, старым, і ня мог даць рады, каб ішоў да князя.

Кухар зьбялеў, дрыжэў і не казаў ні слова. Ён глядзеў на пасланца вытарашчанымі вачыма й ня рушыўся зь месца, быццам прыліпшы. Потым, урэшце, паволі скрануўся й пабрыў у сваю каморку, побач із прыкухоньнікам. Асунуўся там на калені, зложыў перад абразом рукі далонямі, як на малітву, і йзноў там

скамянеў. Не маліўся, ня кланяўся, толькі стаяў на каленях і глядзеў на абраз.

Доўга прастаяў-бы ён так, каб ня прыбег другі пасланы. Тады двое гайдукоў схапілі незразумела адурнелага кухара пад пахі й пацягнулі ў палац. Ногі ў яго ня йшлі, згіналіся, лоб узапрэў, зьмярцьвеласьць на твары не зьмяншалася.

— Упіўся ты з радасьці, ці што? — крычэў на яго старшы гайдук. — Князь хоча паказаць цябе гасьцём, які ты, знацца, штукар зайцаў смажыць, а ты й язык высалапіў... Ідзі ўжо сам! — і піхнуў яго зьлёгку ў бок.

Але кухар зваліўся на сьнег і ня йшоў. Пасьля ён схапіўся рукою за грудзі й балюча застагнаў: «Ай, людцы, сэрца, сэрца баліць!»

Гайдукі спужаліся запраўды, але ня важыліся марудзіць і, схапіўшы яго, пацягнулі далей. Чэлядзь, якая бачыла гэты абраз, з подзівам і страхам прыглядалася, уважаючы, што кухар правінаваціўся й яго цягнуць катаваць. З палацу выскачыў стольнік. Спытаўся набягу, што такое, схапіў жменю сьнегу й пацёр кухару лоб. Тады ён троху ачуняў і слаба паплёўся сам.

Калі гайдукі адчынілі дзьверы ядальнага пакою, паны шумна гаманілі, на перабой хвалячыся сваімі ўдачамі на ловах, строілі розныя жарты на свой панскі манер. Граф Бжастоўскі перш заўважыў і сьмяючыся закрычэў: «Генія, генія, здаецца, прывялі!»

— А, вось ён, геній... — прабурчэў пануры стары пан і ўсьміхнуўся: — праўда, якісь асаблівы, быццам з таго сьвету... Але зайца смажыць мастак!

Госьці патроху сьціхлі, павярнулі галовы туды, дзе між двох рослых, здаровых, як дуб'ё, гайдукоў, стаяў пахілены, зьбялелы кухар.

— Што табе зьдзеялася, дурню? — скажы-ткі нам, як ты смажыў зайца?

Кухар толькі шавяліў васковымі вуснамі й нічога не казаў.

Князю было прыкра, што ў яго чалядзінец такі затуканы й баязьлівы.

— Што табе, дурню? — ізноў спытаўся ён грэблівым голасам: — чаго без пары спужаўся: за добрую работу будзеш мець добрую заплату.

Кухар зразумеў гэта, як пагрозу, і асунуўся на каленкі.

— Князёчку! — залямантаваў ён, — харты яснай міласьці, харты, каб на іх паляруш!

Ніхто нічога не разумеў. Харты яго спужалі, ці што? Князь насупіўся, што кухар папсаваў яму добры гумар. Але ён не хацеў крута мяняць такую нядаўную ласку на гнеў і намерыўся яшчэ раз спытацца, у чым справа. Толькі ён тое падумаў, як кухар скорчыўся й схапіўся абедзьвюма рукамі за грудзі.

— Ой, сэрца, людцы! Ой, сэрца!...

— Зь ім сардэчны прыпадак ад якогась перапуду, — сказаў пануры стары пан і стаў ліць у шклянку сьцюдзёнае вады, каб ратаваць нявшчаснага; ён знаўся на лячэньні хвароб. — На, выпі, галубец, — прыклаў ён да зубоў кухара зазьвінеўшую шклянку й з прыяючай іроніяй дадаў: — сардэчная хвароба — хвароба геніяў.

— Ой, людцы! Ой, людцы! — жаласна лямантаваў кухар, скрабучы грудзі кіпцямі.

Усім зрабілася ніякава.

— Гэта мы яму — «людцы», — усьміхнуўся шляхотны граф Бжастоўскі на простую мову кухара.

— Вядзеце яго! — загадаў князь гайдуком. — Хартоў спужаўся, як дзіця... — прабурчэў ён усьлед падданаму й для спакою гасьцей зьвярнуўся голасна й як нічога ня было: — Гэта што — пара ласёў! Вось як мы летась палявалі з графам Зібэр-Плятэрам, — зуброў накрылі ў маёй дальняй пушчы...

— Зуброў?!

— Зуброў?!

І шумная лоўчая размова паноў аднавілася. Зараз забыліся аб смашным зайцу й аб хворым кухару.

III

Хворы кухар стагнаў на ложку ў сваёй каморцы.

Зьявіўся дваровы фэльчар, даў выпіць супакойных капак, пытаўся, як сталася хвароба. Не дабіўшыся ніякога адказу, махнуў рукою й пайшоў сабе.

Малодшыя кухары ад смутку й дзеля спачуцьця — выпілі й сваім гоманам дурылі галаву хвораму.

Позна ўвечары прыбег захныканы ґайдучок Ясюк шукаць запрапашчанага ката. Ён аблазіў усе куткі ў пякарні й нідзе яго не знайшоў, толькі выцягнуў з запечча зайчую скурачку, якая дужа нагадвала яму ката. Зь ёю ў руцэ прыйшоў ён да хворага, калі там нікога ўжо ня было, і стаў плакаць і жаліцца дзядзьку, што баіцца князя за ката.

— Можа ўцёк у лес... Можа сабакі разарвалі... Заўтра яснавяльможны спытаецца, дзе кот... Што я скажу? Гу-гу-гу, — румзаў бедны хлопчык, прыпаўшы да скуркі тварам. — Вось ён такі быў гладзенькі, як зайчык... Прыйшоў са мной сюды ў пякарню, а потым ня ведаю, дзе дзеўся.

— Ня ведаеш, Ясюк? — узьняўся з ложка хворы і ўталопіўся на мальца зьдзіўленым паглядам. — Ня ведаеш, дзе падзеўся твой... гэты... кот?!

— Ня ведаю, гу-гу-гу, — ня сунімаўся, плакаў Ясюк. — Можа ўцёк у лес ці на вёску, сабакі там мужыцкія разарвуць яго, гу-гу-гу...

— А ў пакоях ніхто ня ведае, дзе ён, халера, падзеўся? — ажывіўся хворы кухар.

— Ніхто ня ведае, ня відзелі... ўва ўсіх пытаўся. Што мне цяперака рабіць, дзядзечка, гу-гу-гу—, будуць сячы мяне, што ня ўпілнаваў.

Сьмяротны цяжар раптам скаціўся з кухаравых плеч. Вялікім шчасьцем засьвяціліся змучаныя, праваленыя, зь сінякамі ад сардэчнай хваробы вочы. Ком радасьці ўскалыхнуў збалелыя грудзі. Спачуцьцё шчасьлівага да няшчаснага сфальшывіла чыстую ў муках душу чалавека. Зь няшчырою пяшчотаю ўцалелага ў вагульнай катастрофе прыцягнуў кухар хлопчыка да сябе, прытуліў, гладзіў па галоўцы, кажучы з найбольшай даступнай яму ласкавасьцяй:

— Дзетка маё! Сіротачка мой бедны! Ня бойся, ня плач, неяк-жа абыйдзецца. Ну, абсякуць, на тое-ж мы слугі панскія, каб нас секлі. Ня бойся, да сьмерці-ж не заб'юць. Вось і мяне колькі разоў секлі, — нічога, неяк-жа мадзею...

Супакойся, мой Ясючок, галубок мой! Здохні ён, кот! Можа яшчэ й знойдзецца. Калі сабакі не разарвалі, вернецца, як захоча есьці, ліха яго ня возьме... Цябе князь любіць, можа й даруе, калі навет і згіне гэты падла.

Хлопчык, круглы сіротка, узяты зь вёскі ў замак ад малых гадоў, рэдка чуў такую бацькаўскую гутарку. Ён паволі змаўкаў, сьціха хліпаючы, ня столькі ад гора, колькі ад расчуленасьці. Ласка старога кухара, даўшага яму сяньня піражок, растапіла ў яго сэрца, як цяпло растаплявае воск. Хлопчык прыпаў да кухаравай рукі й пацалаваў яе так, як цалуюць рэдкія дзеці ў рукі сваім бацьком. Скурка выпаўзла зь ягонае далані й скацілася на ложка. Кухар зорка сачыў яе і, упілнаваўшы зручнасьць, пасунуў локцем назад, і яна звалілася за ложак. Тады кухар пачаў умаўляць хлопчыка, каб ён ішоў класьціся спаць.

— А як-жа, дзядзька, хворы адзін будзеце ляжаць? — зь дзяцінным прыяньнем спытаўся хлопчык, паглядзеўшы на старога чысьценькімі, абсохлымі ад сьлёз вочкамі.

— Нічога, Ясюк! Не шкадуй мяне, бо мне ўжо крышку лепей...

А. САВІЦКАЯ

# Туманаў вір

Даўно-даўно, шмат гадоў таму, яшчэ за прыгонам, на ўсім Палесьсі ў народзе славіліся выдатныя скрыпачы-самавукі, на прозьвішча Туманы. Ад прадзеда да дзеда, ад дзеда да ўнукаў перадаваліся — гэты вялікі талент і старэнькая скрыпка, якую шанавалі лепей, чым маці родную. Прыгожыя і здатныя былі Туманы. Шмат было ў іхным родзе галасістых сьпевакоў і добрых танцоўнікаў.

Любіў іх народ, шанаваў, і ўсюды Туманы былі за жаданых гасьцей. Ведалі і чулі іх і ў панскіх палацах і па гарадох; але найапошні з роду Туманоў выдаўся таленавіцейшы за іх усіх, ды сама няпрыґожы і нешчасьлівы. Жыў ён у вёсцы Патапаўцы адзін у вапусьцелай хацінцы, кволы, з запалымі грудзьмі, тонкі і ґнуткі, быццам лазінка, з рабаценьнем на брыдкім твары, блакітнымі, лінялымі вачыма, якія толькі, калі ён граў, ажывалі і сьвяціліся прыгожым нутраным агнём.

Горш за ўсё псавалі яго вялікія вушы і даўгія, мала не да каленаў, рукі з вузлаватымі крывы-

мі пальцамі. На вялікае сваё гора, меў Міхась Туман гарачае сэрца, якое шмат кахала і хацела быць каханым, але ня мела на свае пачуцьці водгуку.

У прыгожых вачанятах дзяўчат чытаў толькі Туман вялікае спачуваньне да сябе і ласку, але ня тую, якое жадала ягонае сэрца.

Доўга кідаўся ён ад аднае дзяўчыны да другой, палка, горача кахаючы, і ўсё без адказу; мучыўся, лятуцеў, жыў толькі ад спатканьня да спатканьня, пасьля зразумеў, што ня сустрэць яму такое дзяўчыны, якая пакахала-б яго. Замкнуўся Туман у сабе і ў лятунках сваіх стварыў вобраз дзяўчыны-красуні ды кахаў яго. Гэты вобраз заўжды быў зь ім, натхняў у музыцы, радзіў яму ў цяжкіх мамэнтах жыцьця і аздабляў ягоную адзіноту. Наўсупроць сваім прашчурам, якія заўсёды імкнуліся да людзей, ён увесь час стараўся ўхіліцца ад іх і блукаў з сваёю скрыпкаю па лугох і лясох, ды там на адзіноце граў цудоўна, граў непаўторна. Граў ад ранаў з маладых год змучанае душы, граў пра нязбытыя лятуценьні, і той, хто чуў гэтую музыку, застыгаў на месцы, як заварожаны, пакуль ня спыняліся гэтыя чароўныя гукі, і пасьля сланяўся, як труены, ня маючы сілы ўзяцца за якую-небудзь працу. Калі-ж даводзілася граць пры людзях, ён зьбіваўся, граў без пачуцьця, як ня хочучы. Яму здавалася, што людзі ня слухаюць ягонае музыкі, а толькі дзівяцца, які ён брыдкі й няпрыгожы, неахайна апранены і гадкі. Усьмешкі ўхвалы, выкліканыя ягонай музыкаю, ён прыймаў за зьдзеклівы надсьмех над сабою, або за спачуваньне.

І пад год 25 Міхась Туман зусім адбіўся ад людзей, якія і ня думалі строіць зь яго кепікаў, адзявалі, абмывалі і кармілі яго.

Аднойчы, у вадзін із прыгожых ліпнёўскіх адвячоркаў, калі на зямлі ляжалі даўгія сьцені ад разложыстых хвояў, ад крылатых ветракоў, калі стомленае сонца зьбіралася разьвітацца зь зямлёю, Міхась Туман сядзеў у лесе недалёка ад шляху і, прытуліўшыся сьпіною да сасны, граў.

Граў ён заплюшчыўшы вочы, уяўляючы, быццам ідзе залітым сонцам лугам з сваёю красуняю-крозай, адчуваючы ўсю ейную істоту; ня граў, а гаварыў ёй аб сваіх пачуцьцях, і гэтыя словы-гукі вылятали з-пад смыка і ўзьляталі вышэй за хвоі ў блакітнае неба. Скончыў і доўга сядзеў, не расплюшчваючы вачэй, баючыся страціць той вобраз, які цяпер стаяў перад ім, навет зьлёгку точанаю белаю ручкаю кранаўся ягоных рудаватых валасоў.

— Але-ж гэта цудоўна! — пачуў ён нечый лагодны жаночы голас, уздрыгнуўся ўсім целам і расплюшчыў вочы. Перад ім стаяла дзяўчына, відаць, панскага роду, з даўгімі чорнымі косамі, якія зьмейкамі спушчаліся з плеч, з чорнымі брывамі, быццам крыльле ластаўчына. Вочы ў яе, чорныя, як ноч, хаваліся пад густымі вейкамі. Уся статная і прыгожая, глядзела на яго з ласкаваю ўсмешкаю на сваіх ружовых вуснах, і Міхась доўга ня мог адвесьці ад яе вачэй. Лятуценьне сталася яваю, і сэрца ў яго трывожна сьціснулася ў камячок.

— Заграйце йшчэ што-небудзь, — папрасіла дзяўчына і села на пянёчак, нарыхтаваўшыся слухаць.

— Але-ж гэта немагчыма, Кася, мы спозьнімся на вячэру, да таго-ж зараз пахаладнее, і табе ў гэты час трэба быць у пакоі.

Міхась павярнуў галаву. Да Касі падыходзіў нейякісь паджылы пан, апранены зь іголачкі, у нейкім навамодным капялюшы. Ён акінуў высакамерным поглядам музыку.

— Я не паеду, пакуль не пачую яшчэ музыкі, — нахмурылася Кася. — Грайце-ж, грайце, чароўны музыка, я хочу вас слухаць, — зьвярнулася яна да Міхася. Сэрца ў яго зразу замерла, пасьля ўздрыгнулася і забілася шалёна, быццам жадаючы выскачыць з грудзей пад чароўным поглядам гэтае дзяўчыны; да твару прыліла кроў. Дрыготкімі рукамі ўзяўся за смычок. Што граў Міхась — ён пасьля сам ня памятаў. Пальцы бегалі па грыфу, не адчуваючы яго, смычок, як бліскавіца, зьвіваўся над скрыпкаю, або толькі ўскраечкам дакранаўся да струнаў, а гукі... гукі то ліліся і віхрыліся, быццам жаданьні, то сьціхалі і ласкава апавядалі штосьці, мяцеліца, палкія, гарачыя, будзячы грэшныя жаугаваравалі, змушаючы салодка заміраць сэрца; то жаліліся ў якойсьці крыўдзе, то зноў сыпаліся кропелькамі расы з закранутага дрэва, чыстыя і бездакорныя, як крышталь. Затуманены зрок Міхася сустрэўся з гарачым поглядам Касі. Музыка абарвалася.

— Я больш не магу, — прашаптаў Міхась. Кася хацела распытаць, адкуль ён, дзе навучыўся гэтак прыгожа граць, але пан ледзь ня гвалтам пацягнуў яе да карэты, якая стаяла непадалёк ад іх на шляху.

Махнула на разьвітаньне Кася рукою і паехала, а Міхась бег праз лес назіркам, баючыся згубіць з вачэй дарагую яму карэту, пакуль тая ня спынілася ў вадным з багатых маёнткаў. А пасьля ўсю ноч блукаў у тых ваколіцах, ня маючы сілы больш граць. То цэлымі гадзінамі стаяў і ня зводзіў вачэй з пахмурага, аблітага дрымотным сяйвом месяца, маёнтку; то клаўся на зямлю і доўга прыслухоўваўся сам да сябе, стараючыся зразумець, што зь ім робіцца; то зноў ускокваў і пасьпешна адходзіў прэч, шэпчучы самапрыгожыя словы да Касі, якія толькі магло прадыктаваць ягонае закаханае сэрца.

Цяжкі час настаў для Міхася. Ён схуднеў, зрабіўся нэрвовы, у вёсцы роднай бываў зусім рэдка, а ўсё блукаў ля маёнтку, жадаючы пабачыць Касю. Начамі ўзьвівалася над старым садам маёнтку дзіўная музыка, кружылася ля цёмнага няветлага будынку, і тады з вакна выглядала Кася і прыветна махала рукою.

Пасьля... пасьля ўсё адбывалася, бы ў якімсь чароўным сьне. Кася выйшла да яго, і ў суседнім ад маёнтку гайку ўпяршыню пацалавала Міхася дзяўчына. Прыхіліўшы гарачую галаву да ейных грудзей, вышэптваў ён словы, якія калісь шаптаў красуні-крозе, пасьля браўся за скрыпку і граў, граў...

Усё, здаецца, было добра, але Міхась ня цешыўся, а мучыўся з гэтага каханьня. Сэрца кахала, а галава разумела горкую праўду.

Ведаў Міхась, што ён ня пара гэтай прыгожай пані, што ён брыдкі, што нявучаны, што блага апранены, адно слова — мужык, халоп.. І мучыўся, у вадзін і той-жа час праклінаючы

той цудоўны адвячорак, калі ўпяршыню пабачыў Касю, і да болю жадаючы зноў яе пабачыць... А ўначы зноў забываўся на ўсё на сьвеце і бачыў, і адчуваў толькі адну яе.

Гэтак цягнулася аж да восені. Пасьля Касі апрыкрала выходзіць на спатканьні, апрыкрала слухаць музыку... Адным словам, яна спаткала другога чалавека з свайго асяродзьздзя, якому аддала сэрца, што маўчала ў часе гарачых гутарак і музыкі Міхася. Узімку яна выехала ў Варшаву.

Як перабыў Міхась час расстаньня, ведалі адны толькі сьцены ягонае хацінкі. Ён блізу ня граў на скрыпцы, бадай нікуды ня выходзіў, і добрыя людзі ці адну варожку прывозілі да Міхася, але нічога не дапамагала.

Увесну-ж, у вадзін із цёплых дзён, калі лёгкае кволае зяленіва лісьця ціхенька трапяталася ад подыху веснавога ветрыка і сонца з ласкавасьцю маці пасылала сваё праменьне на прабуджаную зямлю, у Патапаўцы спынілася карэта. Паджылы пан пытаўся ў халопаў, дзе можна пабачыць Міхася Тумана. Пацямнела ў ваччу ў Міхася, калі ён угледзеў знаёмага пана, карэту, і калі-б не апёрся плячыма аб вароты, ня ўстояў-бы.

— Пані Кацярына прыехала з Варшавы і хоча чуць тваю музыку, — сказаў пан Міхасю. — Зьбірайся, зараз паедзем.

Нядоўгія былі зборы ў Міхася, і за поўгадзіны правялі сяляне за ваколіцу карэту, у якой сядзеў іхны ўлюбенец.

За дзьве гадзіны ўвялі Міхася зь ягонай старэнькаю скрыпкаю ў раскошныя пакоі, поўныя

гасьцей. Бляск люстраў, гром музыкі, гул галасоў і раскошы ўбораў не зрабілі на Міхася гэткага ўражаньня, якое зрабілі-б год таму. Усё гэта мітусілася перад ягонымі вачыма ў блакітным тумане; і лёкаі, што шныпарылі між гасьцей, быццам мышы, і прыгожыя паненкі, і абразы на сьценах, да якіх ён быў вялікі ахвотнік. Галава ў яго кружылася, ногі дрыжэлі, ня ў змозе ўтрымаць ягонае худзенькае цела.

Хтось падыйшоў і сказаў Міхасю, што калі ўвойдзе пані Кацярына з панам Станіславам, каб ён зайграў што-небудзь вясёлае, урачыстае, сустрэчнае — ён сам павінен ведаць, што.

Міхась у зьдзіўленьні паглядзеў на чалавека, а пасьля, як і ўсе, пачаў глядзець на дзьверы. А сэрца сьціснулася, быццам прадчуваючы вялікую бяду.

Але вось дзьверы адчыніліся,і на залю ўвайшла пад руку з чарнявым прыгожым панам Кася. У шлюбным адзеньні, як лёгкім туманом, абвітая танюсенькай тканінаю фаты зь белым вяночкам на галоўцы, яна здалася Міхасю хутчэй чароўнаю крозаю, чымся жывою дзяўчынаю. Адзін толькі мамэнт глядзеў Міхась на Касю, зачараваны ейным харaством, пасьля зразумеў усё... Уздрыгнуўся ўсім целам, і кажны мускул, кажная каморачка ў яго нацягнулася, быццам струна. Уся кроў прыліла да сэрца. Твар зрабіўся, бы васковы, і толькі вочы, як пралескі, выказвалі вялікую пакуту. Хтосьці штурхнуў, каб іграў.

Міхась сабраў усю сваю волю, спакойна паглядзеў у вясёлыя Касіны вочы, горда ўзьняў галаву і трохі падумаўшы, зайграў...

Гэта была лебядзіная песьня Міхася Тумана, апошняга з роду таленавітых музыкаў. Госьці зьнямелі... З Касінага твару зьбегла ўсьмешка, і ён зрабіўся бляды, бы крэйда. Толькі чорныя бровы, гэтыя дарагія і каханыя Міхасю бровы, ледзь уздрыгвалі. Вочы ў зямлю апусьціла.

Вось зь ціхою журбою віюцца гукі, прыпамінаючы ёй тыя чароўныя месячныя ночы ў гаі, гучаць дакорам і глыбокім болем скрыўджанага сэрца, а вось... вось успыхваюць балотнымі агенчыкамі, перабягаюць з самавысокіх нотаў на нізкія, і ўжо грымяць горда, хаваючы свой боль і няпэўнасьць. Але ня доўга вытрымаў Міхась гэты тон і сарваўся. Тады... тады з шалёнай хутчынёю бязрадасныя гукі, у якіх чулася беспрасьветная туга, боль, накіпаньне сьлёзаў, узьвіліся над галовамі, над галовамі ўражаных гасьцей да маляванае чырвонымі макамі столі. Не, гэта ня скрыпка грае... гэта гукі зь неба... гэта чыясь нечалавечая журба віецца над галовамі... Маленькі перапынак, гукі зноў віхрацца, як у той цудоўны адвячорак, калі ўпяршыню граў Міхась для Касі. Апошні раз смычок прабягае па ўсіх струнах і з-пад васковых пальцаў Міхася вырываецца цяжкі стогн, бы душа ягоная ўздыхнула апошнім перадсьмяротным уздыхам і замерла...

Яшчэ не пасьпелі апамятавацца людзі ад гэтае музыкі, і ціша панавала ў залі, як рвануўся Міхась, нічога ня бачачы і ня ведаючы куды, прабег рад пакояў ды выскачыў з палацу, а за мамэнт быў ужо за маёнткам.

Калі, апамятаваўшыся, Кацярына дала загад адшукаць музыку, Міхась ужо йшоў полем, нічога ня бачачы, глядзеў кудысь перад сабою, прыціскаў да грудзей скрыпку...

Але вось рака... За ракою родная вёска... ля ракі вербы старыя. Тут калісь Міхась, яшчэ маленькім, сьцягнуўшы ў дзеда скрыпку, упяршыню прымусіў аднасяльчанаў заслухацца свае музыкі... Ён спыніўся... пастаяўшы трохі, прайшоў уздоўж, да страшэннага віру. Старыя спарахнелыя вербы зусім схіліліся да вады і палошчуць у ёй сваё гольле, а вада чорная, і круціцца, і кіпіць, бы ў катле. Страшны вір... колькі людзей схаваў ён у сваім прадоньні.

Міхась паглядзеў на ваду і, мацней прыціснуўшы скрыпку, скочыў у вір... Успляснула, завірылася вада... Мільганула галава... пасьля рука... пасьля нічога не засталося, толькі вада круцілася і кіпела, чакаючы новай ахвяры. Над ракою ў кустох пяяў салавейка, а захад, абвіты чырвонаю істужкаю зары, дакляраваў назаўтра добрае надвор'е. Дзесь далёка-далёка на лузе шчоўкаў бізун... грала жалейка... чуліся вясёлыя дзіцячыя галасы. Жыцьцё ішло сваім шляхам...

Дарэмна двух сялян, што бачылі, як скочыў Міхась, сьпяшаліся на дапамогу — вір не аддаў ім навет ягонага цела.

Ад тых часоў страшны вір ля Патапаўкі пачалі зваць «Туманаў вір».

---

Ю. ВЕРАШЧАКА

# Мост у Кутох

Куты — засьценак, якіх ці мала сустрэнеш, едучы трактам зь Вільні ў Полацак; — толькі нашыя Куты запраўды ляжаць у куце паміж рэчкай і лесам, вярсты на тры ў бок ад гасьцінца.

Вось у гэтых кутных Кутох жыло калісь двох гаспадароў: Рыгор Задзірака і Тамаш Няўступака. — Жылі, хлеб жулі. — Сварыліся, мірыліся, на кірмашы выпівалі, на вясельлях гулялі, на хаўтурах плакалі; ну, а калі даходзіла да чубоў, дык церабілі адзін аднаму. Словам, жылі, як бацькі, дзяды, і былі задаволеныя жыцьцём, сабой і сваімі Кутамі.

Хаты нашых гаспадароў стаялі абапал рэчкі, — адна на адным беразе на ўзгорку, другая на другім, ды таксама на ўзгорку, і былі падобныя да сябе, як дзьве родныя сёстры, з тэй толькі розьніцай, што Рыгорава раніцой зерыла на Тамашову чырвонымі ад сонечнага сьвятла вонкамі, а Тамашова ўвечары. Значыцца, з хатамі ўсё ў парадку было, але вось із зямлёй куды горш: бо Тамашоў клін ляжаў за рэчкаю на Рыгоравым баку, а Рыгораў клін — на Тамашовым баку.

Із гэтага відаць, што, каб праехаць із возам ці прагнаць жывёлу праз рэчку, патрэбен мост. Мост такі быў. Прадзедамі быў яшчэ будаваны з дубовых круглякоў, цяжкі й моцны. Але ўсё мае свой век. Дажыў яго і кутоўскі мост: аднае вясны вада падмыла зруб, і мост — бэлечка па бэльцы — павандраваў у сьвет далёкі.

— Пайшоў мост упрочкі, толькі тае бяды — казалі суседзі, — уброд пераедзем.

І езьдзілі ўброд усю вясну, але пасьля вясны, адвечным звычаем, прыйшло лета, трэ' было вазіць сена, а з возам ня тое, што ўлегцы: колы загрузнуць, і ні ўзад, ні ўперад! Ведалі гэта добра суседзі і не памыкаліся ехаць із возам праз брод, але і ня браліся будаваць маста. Рыгор казаў, што правіць мост павінна земства. Тамаш ня верыў у земства, але ўсю надзею пакладаў на двор: «За прыгону з панскага загаду мост будавалі», — казаў ён, абапіраючы гэткім спосабам сваё права на даўнасьці. Але ні двор, ні земства ня прыходзілі з падмогай у Куты, бо мост ляжаў на зямлі гэтых двох гаспадароў і ім самым толькі патрэбны быў.

А час не стаяў, але ўсё плыў і плыў, маўляў, тая рэчка. Не агледзіліся, як і Спас падыйшоў, а маста як ня было, так і ня было. Збожжа і сена ўсё яшчэ стаялі ў полі нязьвезеныя на пацеху мышам і варонам. Кутоўцы, страціўшы веру ў земства і двор, пачалі міжсобку сварыцца, каму зь іх двох трэба мост будаваць. Кажны панукаў другога, а другі ўпіраўся. Сваркам канца ня было; завялі справу ў судох, але пакуль што, час плыў: трэ' было ўжо ярыну вазіць, жыта малаціць, а тут рэчка ад дажджоў частых,

як на злосьць, разьлілася шырэй, а стагі і мэндлікі ўсё пахмурней паглядалі на гумны. Глумілася дабро.

Гаспадаром шкада было свае працы: злосьць даўно перакіпела, цяпер ужо суседзі больш вінавацілі парадкі на сьвеце, чымся сябе. Шкадавалі адзін аднаго, але ня ведалі, як бядзе рады даць. У суды, у воласьць, і да земскага езьдзілі разам, разам дамагаліся праўды, разам залівалі гора сваё манапалькаю, але ўсюды спатыкалі адзін адказ, што гэта іхная суседзкая справа, бо мост на іхнай зямлі ляжыць, больш нікому не патрэбен. Рыгор із Тамашом гэта ведалі ,але ім ішло аб тое: хто яго павінен правіць? Ім адказвалі, што яны самі павінны.

— Добра! Але дзе-ж загад? — Пыталіся.

Загаду ня было.

Раз у суботу сыйшліся Тамаш із Рыгорам каля броду, селі на каменчыку і пачалі гутарку. Гутарка іхная была поўная жоўці: чулі яны кроўны жаль да ўсяго і ўсіх на сьвеце, чулі, што крыўда робіцца, але не маглі надумаць ратунку, не маглі згадаць, скуль на іх ідзе ўсё гэтае няшчасьце?

— Вось часы насталі! — бедаваў Тамаш, — дыхаць цяжка людзям на сьвеце, праўды нідзе ніякай!

— Дзе цяпер праўды шукаць?! Даўней, дык начальства было, важнае начальства... Узяць хоць-бы даўнейшага нашага пасрэдніка. Суд і праўда напагатове ў яго!.. Раз, два — і гатова!..

— Ну, што там пасрэднік, — ня было лепшага парадку, як, вечны пакой, пры нябожчыку пану старым. Пакліча аканома, жыва табе загад і каманду прыпісаць загадае...

— Нішто чалавек быў, — пахваліў і Рыгор.

Тамаш, пыкаючы люльку ў задуме, як-бы нешта прыпамінаючы, казаў:

— Балюча білі!

— Дык што, што балюча, — але парадак быў, лад быў, а цяпер што?

Рыгор злосна плюнуў набок.

— Даўней прыйдуць да цябе і паглядзяць, ці ўсё ў парадку, а цяпер ты да іх ідзеш, і то праўды няма ніякай: во калі часы насталі! . .

— Ня толькі часы, а і людзі зьмяніліся. Гэта-ж даўней прыдзе ўраднік, дык такога крыку наробіць, з хаты павыганяе ўсіх.

— А і цяперашні нішто; ён таксама зарадны чалавек. . .

— Можа-б ён раду якую даў? — гануў Тамаш із бліскам надзеі ў вачох.

— Дык чаму-ж бы не? . .

Гаспадары ажывіліся, бліснула іскра надзеі ў іхным безнадзейным палажэньні. Наладзіўшы хутка каламажку, яны паехалі хутка ў мястэчка да ўрадніка.

Ураднік сьпярша ніяк ня мог уцяміць, аб што ім ідзе, але, зразумеўшы, дакляраваў сваю дапамогу.

Сялянам весялей зрабілася на сэрцы, поўныя надзеі і веры ў урадніка, ехалі дамоў.

На другі дзень соцкі прынёс паперу ў Куты ад урадніка, дзе пісалася, каб да суботы другой на руме былі зьвезеныя ўсе матар'ялы, патрэбныя на мост, а ў суботу каб работнікі зь сякерамі і пiламі чакалі на ўрадніка.

Тамаш прабаваў казеліцца, што замала часу да суботы, але Рыгор перапыніў яго, паказваючы паперу:

— Бачыш, што ў бумазе напісана? Ну, дык і няма што валаводзіць.

У другую суботу матар'ялы былі ўсе зьвезеныя, і суседзі з парабкамі ад досьвіткаў чакалі на ўрадніка.

Каля сьнеданьня пад'ехаў ураднік. З голымі галовамі, камечучы ў руках шапкі і нізка кланяючыся, віталі яго. Саскочыўшы з каламажкі, ўраднік перш-на-перш злаяў іх. Лаяў за тое, што матар'ялы не такія, пасьля лаяў, што дагэтуль нічога не зрабілі яшчэ, а там яшчэ за марудную работу, за ўсё пакрысе. Гаспадары ўслухаліся ў лаянку гэтую, як у бацькаўскую навуку, і бясконца цешучыся, працавалі да поту. Мост на ваччу рос, а да вечара гатоў быў зусім. Засьцянкоўцы таксама расьлі ад радасьці.

Справіўшы пачастунак і выпіўку таму, хто-ткі вывеў іх ізь бяды, Рыгор праводзіў праз новы мост Тамаша дамоў і не без хванабэрыі ў голасе пытаў:

— А што, суседзе, хітра я надумаў?

— Хітра! — патакваў Тамаш, із пашанай угледаючыся на Рыгора.

ЯДВІГІН Ш.

# „Прі исполненіі служебных обязанностей“

А казаў я, колькі раз казаў Сымону Лябёдку — свату, значыцца, свайму, — ня лезь ты, гад, зь языком сваім, куды ня трэба, не патыкайся, а то, брат, нарвешся! Дык не: не паслухаў, ня вытрываў! Ну й добра — ня шкодзіць. Не на маё выйшла? Не нарваўся? Сядзі цяпер, сядзі й кукуй!

Язык — языком: трэба ведаць і статкавацца, куды, калі й нашто ён патрэбны.

Нашаму брату-селяніну язык патрэбны бывае разы са два ў год канечна: на Каляды й на Вялікдзень. У гэтыя дні мясная яда — ну, дык трэба-ж і аблізацца, а чым-жа абліжашся, калі не языком.

Патрэбны яшчэ язык і маладому, як жэніцца: бяз прысягі ня выкруцішся; а пасьля... пасьля ўжо маўчы: за цябе й жонка насакоча.

Ну, але справа ня ў тым. Лепш раскажу ўсё толкам, папарадку, што й як было, а там... самі ўжо разьбірайцеся — ці-ж ня праўду я казаў, што Сымон — гад?

Перш-на-перш трэба вам ведаць, што Сымон — вялікі манюка: выдумае такое іншым разам, што табе і ў жыцьці ня сьнілася, а як раскажа, расьпіша, — здаецца й запраўды так было й так ёсьць. Але й гэта яшчэ не бяда. Горшая бяда ў тым, што гэты самы Лябёдка — страшэнны задзірака: старшыні — ніколі чаркі не паднясе; сустрэўшыся з ураднікам, а хоць-бы на'т із самым прыставам — да шапкі ані дакранецца; а такіх, як стараста, ці там які выбарны — дык і зусім не шманае.

Дык ня дзіва, што кажны гэткі чын рад-бы насаліць Сымону, а тут якраз здарылася прычына.

У двары нашым зрабілася пакража, і то, мусіць, пакража не абы якая, калі, як толькі агледзеліся, ночы яшчэ, зараз - жа паляцелі на станцыю й далі знаць у горад тэлеграмкай, каб адтуль прыслалі сабаку-сышчыка.

Хіба вы ўжо чулі, што цяпер і гэткія сабакі завяліся? Досыць гэткаму цюцьку абнюхаць хатнія рэчы, паміж каторымі здарылася пакража, і тыя месцы, да каторых дакратваўся злодзей рукамі ці нагамі, як ужо сышчык-сабака давядзе да праступніка й носам яго спазнае.

Праўда, не заўсёды бывае ўдача, хоць-бы й такому нюхайлу, бо іншым разам пойдзе сьнег ці дождж, пакуль прыедзе на сьледзтва «яго міласьць», і гэтак зальле сьлед, што й сам сабачы нос нічога не паможа. Тады кідаюцца часамі на іншы спосаб: паказваюць западазроных людзей сабаку, а той, абнюхваючы іх, знаходзіць між імі вінавайцаў.

У тую ноч, як сталася пакража ў дварэ нашым, шмат было там чужых людзей: удзень былі яны на рабоце дапазна дый заначавалі. Паміж іншымі быў Сымон, быў і я. А што, як на ліха, перад тым, пакуль прыехаў гэты важны сабака, прайшоў дождж і заліў сьлед, дык прыйшлося хапіцца таго другога спосабу, аб якім я гаварыў: запрэзантаваць сышчыку западазроных людзей.

Добра. Сагналі ўсіх: і падзённых работнікаў, і ўсю дворную службу, каб крыўды, значыцца, нікому ня было.

Перад дворным ганкам, дзе збор быў назначаны, чалавек сорак набралася. Паразьбіваліся на кучкі паводля знаёмства, кумаўства, сваяцтва. Пайшлі гутаркі, жарцікі, сьмешкі. У цені, пад старой ліпай, стаяў ураднік і ляскаў нагайкай па сваіх бліскучых халявах; побач — стараста, казюрачы вочы на мэдаль, які целяпаўся на грудзёх яго сьвіткі, а ззаду іх — выбарны нашай вёскі. Ліха надало неўздалёк гэтай кампаніі выбраць сабе месца й Сымону Лябёдку: расьсеўся ён каля нейкага чырвонага куста загранічнага, як на сваёй дзядзіне, з кумой Агатай Тамашыхай і швагрусём Андрэем Дударом; прыкуцнуў і я тут каля іх, ня столькі дзеля сяброўства, колькі, праўду кажучы, дзеля цікаўнасьці, бо ведаю добра, дзе ўжо ўблытаецца наш Сымон, то там гладка ня пойдзе — грэх гаварыць, любіў наварыць кашы, а й затаўкі не жалеў. Моладзь, якая знала й любіла язычок Сымона, абступіла ўвакол нашу кампанію.

— Ну, і дажыліся, — першы пачаў Андрэй, — гэткі-то зьдзек над хрышчоным народам: на-

водзіць на чалавека нейкага сабаку, каб ён абнюхваў яго, як зьвяр'ё якое.

— Мужчын — то ён не абнюхвае: абы глянуў толькі на яго, то ўжо ведае, што за чалавек, а вось з бабамі — праўда — ня дасьць рады, не абнюхаўшы, — растлумачыў Сымон.

— Божухна-бацюхна, — пачала лемантаваць кума Агата, — што я чую! Што выдумаў — нюхаць!? А каб ягоныя воўк вантробы нюхаў, каб зь яго дух папёрла. Такі там мусіць і сабака, калі пушчаецца на гэткія штукі: ня йнакш, як француз, пераадзеўшыся за сабаку.

— Э, гэта што! — пачаў зноў Сымон, — я вам лепшую штуку раскажу. Ня чулі? У пристава чацьвертага стану выкралі зь лядоўні масла, сыры й кумпяк бараніны. Прыстаў, разумеецца, заразжа паслаў па сабаку. Праз колькі гадзін прыехаў гэты сабака, само сабой, з правадыром сваім. Абсьледваў ён — сабака гэты самы — зараз усю лядоўню, выскачыў адтуль, нюх-нюх у вадзін бок, у другі, ды прэ на дзядзінец да станавога пісара. А там стаяла сама пісарыха. Угледзеўшы сабаку ды ведаючы, у чым справа, сьцяміла баба, што можа быць дрэнна (быў, відаць, нейкі грашок) — яна тады на сабаку вокам мірг-мірг . . .

Хлопцы — у рогат, а Тамашыха стала дзівіцца й дапытвацца:

— А-а-а-а? А што-ж сабака?

— А што-ж сабака? — цягнуў памалу Сымон, — сьцяміў і ён, гад, адразу, бо — ці дасьцё веры, ці не — адміргнуў! А пасьля пакруціўся яшчэ нейкі час, мабыць, для фасону на тым самым дзядзінцы, ды як упёрся носам ля

паркану — хоць ты што! Прыймчалі драбіну, прыставілі да плоту; сабака спрытна, як той нячысьцік, на драбіну, ды праз паркан — на другі бок сморг, і пайшоў круціцца, водзячы носам па зямлі, па местачковых гародах.

— Ну, і знайшлі? — пытаемся ўсе, зацікавіўшыся гэтай справай.

— Але, знайшлі, — адказвае Сымон, — як у лесе рэха. Дзе-ж вы бачылі, каб знайсьці, калі яны ўсьпелі пераміргнуцца. Казалі толькі, што ўсю ноч пасьля гэтага ў пісара балявалі: пісар, правадыр, пісарыха й гэны сабака; да раніцы так усе напіліся, што хоць ты іх выкручвай.

— Як то ўсе? — зьдзівіліся мы, — і сабака напіўся?

— Не, — зважна кажа Сымон, — правадыр толькі піў, а сабака закусваў, а як гэта ў іх выйшла, што п'яныя былі ўсе — кадук іх ведае; старож станавога, як ішоў раніцой па ваду, бачыў і пісара зь пісарыхай, і правадыра з сабакам, як каля паркану ўсёй кампаніяй, шануючы вас, казлы дзерлі.

— Вось, пайшла распуста на Божым сьвеце! — пачала зноў лемантаваць кума Тамашыха, — сабака й той даўся на падкуп.

— Што-ж вы хочаце, — кажа Сымон, — пападзі ты толькі ў паліцыю, там, як бач, навучаць, а ён-жа сабака паліцэйскі.

— Вось я табе пакажу й навучу: будзеш ты помніць і становога, і пісара, і паліцэйскага сабаку, — гакнуў неўспадзеўкі вураднік із-пад ліпы, а нос ягоны зь сіняга колеру, як у індыка, ажно забялеўся.

А Сымон — хоць-бы што! Спакойна так адказвае:

— Дарма работа ваша будзе. Я сам знаю: вы, прымерам, называецеся — паліцэйскі ураднік, а ён — паліцэйскі сабака. Нічога ня зробіш: кажнаму свой чын. Чуў нават я, што той сабака мае мэдаль за свае заслугі; толькі як і дзе яго носе — не давялося бачыць. Пэўна-ж не на грудзёх, як наш, не раўнуючы, стараста...

Усе міжвольна глянулі на старасту. Той, пачырванеўшы, як рак, лыпаў вачмі, як-бы плакаць зьбіраўся. Ураднікава нагайка пачала шыбчэй яшчэ ляскаць па халявах і няма ведама, чым-бы гэта ўсё скончылася, каб у гэты момант ня ўехала брычка на дзядзінец, у каторай сядзелі прыстаў і правадыр із сабакам. Пад'ехаўшы пад ганак, яны саскочылі й пайшлі ў пакоі.

Жарцікі й сьмешкі сьціхлі. На'т Сымон змоўк. Нейк зрабілася няпрыемна. Бадай што кажнаму на думцы было тое, што і ў мяне: а што, калі гэты самы сабака прычэпіцца да цябе, нявіннага чалавека? Гэта-ж згубіць можа на векі-вечныя.

Чакаць давялося нядоўга. У скорасьці выйшаў станавы, за ім правадыр із сабакам. Людзі паўставалі. Вочы ўсіх былі зьвернуты толькі на сабаку. Сярэдняга росту — от, як наш Лыска ці Разбой, толькі масьці паджарай — падхадзя на ганчака, морда даўгаватая, невялікая, як у ваўка вушкі, зусім кароткі (мусіць-то адсечаны) хвост.

Абход пачаўся з другога ад нас канца; але ці нам здалося, ці й запраўды гэтая цырымонія так хутка йшла, што й не агледзеліся, як гэты

сабака, тыкаючы носам то туды, то сюды, мінуў ужо ўсю шарэнгу людзей, мінуў і мяне, і Сымона, нюхнуў лапаць кумы Агаты, і, — тыц пад той чырвоны куст, каля каторага мы перш сядзелі, а тут, як зь неба, пад самы нос сабачы кот — гойц! — і стаў.

Скуль гэты кот узяўся, вансак яго ведае: мо' ў кусьце сядзеў і птушак пілнаваў, а мо', як вураднік цьвердзіў, штуку гэтую падстроіў Сымон, каб закпіць з начальства. Праўду кажучы, шмат хто і з паміж нас гэтак сама думаў, хоць я гатоў быў прысягнуць, што сам Сымон гэтага не зрабіў, бо я тут-жа каля яго стаяў і бачыў добра; хіба ён раней падмовіў каторага зь дзяцюкоў і той трымаў за пазухай да часу тую мышыную сьмерць — гэта стацца можа; але праўды такі й не дабіліся.

Кот, апынуўшыся перад самай мордай сабакі, уцякаць зразу не адважыўся, бо ці то бок, ці, яшчэ горш, зад із хвастом апынуўся-б у небясьпецы. Трэ' было пушчацца на хітрыкі й адвагу. Выгінаючы сьпіну ў дугу й саставіўшы лапы ў кучу, стаў ён падымацца на іх, а калі яшчэ паставіў хвост дугой і ўсю шэрсьць нашупырыў, то ўжо пэўны быў, што такога высокага й страшнога зьвера й сам сабака ня надта адважыцца зачапіць, а каб яшчэ большага пуду задаць, кот разінуўся як мог найшырэй і стаў фыркаць і сыкаць, а пасьля раптам — пэц — па мордзе свайму ворагу й сам ходу. Сабака ажна якнуў з болю.

— Вось так яго, каток, так! Курту гэтага! Воўчае мяса! Сышчык паліцэйскі! С-сук...

Але Сымон так і ня скончыў свайго павіншаваньня: вураднік, як каршун, наляцеў і пацягнуў яго да прыстава. Які там даклад зрабіў вураднік начальству свайму — гэтага не скажу: ня чуў. А толькі пагналі Сымона ў пакоі, там вураднік напісаў пратакол, а ад'яжджаючы, пасадзіў яго побач сябе.

Я падыйшоў да брычкі й пытаю:

— За што цябе, Сымонка?

— «За оскорбленіе прі ісполненіі служебных обязанностей», — сярдзіта адрэзаў вураднік.

— Каго-ж ты, сваток, абразіў? — дапытваю.

— Паліцэйскага; але ці паліцэйскага сабаку, ці паліцэйскага . . .

Сымон і на гэты раз ня скончыў: брычка пакаціла.

А. ПАДГОРНЫ

# Паравоз

Вус толькі пачаў сыпацца Стасюку Сырамяку, як кінуў ён родную хату і ў сьвет пайшоў. Вось так звычайна — узяў і пайшоў. З бацькамі, мабыць, пасварыўся. Жаніцца ён хацеў, а бацькі не дазволілі. Толькі ўзяў ён так моцна гэта да сэрца, што й вёску родную кінуў і ў сьвет паплёўся.

Як выйшаў, дык і сьлед за ім прапаў. Шкадавалі бацькі — ведама, роднае дзіця. Хай ужо жаніўся-б, думалі. Але ўжо позна было.

Толькі на чацьверты год Стасюк адазваўся. Ліст бацьком прыслаў.

— У горадзе я цяпер жыву, — пісаў — на чыгунцы памоцнікам машыністага еджу. Цягнікі з таварам важу.

Вельмі ўцешыліся бацькі. Ведама, такое здарэньне — сын родны адазваўся. Цягнікі з таварам возіць. Зараз уся вёска пра той ліст даведалася. Пачалі тут уздыхаць ды ахаць. І зайздросьціць пачалі.

А стары Сымон Сырамяка на'т лапці скінуў. У ботах пачаў хадзіць.

— Не выпадае мне, — казаў, — у лапцёх, хадзіць. Мой сын у горадзе жыве. Цягнікі з таварам возіць.

І так заганарыўся, што на'т знаёмым кланяцца перастаў.

Прайшло крыху часу, і задумаў стары Сымон у горад ісьці. Значыцца, каб сына пабачыць. Паглядзець, як той у горадзе жыве й цягнікі водзіць . . .

Высмараваў Сымон дзёгцем боты й сарочку новую надзеў. Лусту хлеба й сала кусок у торбу ўлажыў. Закінуў яе на плечы й зьвярнуўся:

— Хутка мяне назад не чакайце. Доўга, мусіць, гасьціць буду. Сын мяне назад на цягніку прывязе.

Патакалі яму людзі галовамі й дарогу зрабілі. Ведама, пашана. Прыйшоў Сымон у горад і пачаў народу пытацца — дзе, значыцца, сын ягоны, Стасюк Сырамяка, жыве. Цягнікі з таварам па чыгунцы возіць . . .

Паціскалі тут людзі плячыма. Пасьмяяліся над Сымонам.

— Дурны ты яшчэ мужык — гэта табе ня вёска. Шмат тут народу жыве. Ці адзін таксама й цягнікі водзіць.

Так і не даведаўся нічога Сымон. Хацеў ужо назад дамоў ісьці, сына не пабачыўшы. Але параіў яму нехта, каб на станцыю даведацца пайшоў.

Зайшоўся Сымон на станцыю, пытаецца.

Ёсьць, — кажуць, — такі Стасюк Сырамяка. Бяжы вось, дзядзька, да таго паравозу, што там на бакавым торы стаіць. Там сына знойдзеш.

Кінуўся тут Сымон з радасьці праз рэйкі скакаць. Ледзь ног не пакруціў. Зусім задыхаўся, пакуль да паравозу прыбег. Бачыць — і запраўды ягоны сын стаіць. Мазь нейкую на колы ліе.

Кінуліся яны да сябе й навет вітацца пачалі. А стары на'т прасьлязіўся. Ведама, чатыры гады сына ня бачыў. Селі яны на рэйкі. Закурылі. Пра жыцьцё сваё пагутарылі. Пасьля зноў пачаў Сымон сына аглядаць.

— Малайчына ты ў мяне, — дзівіўся. — Бач, якім асілкам вырас. І вусы, як вехі, загадаваў. Мусіць, дзеўкі самі за табой лётаюць?

Усьміхнуўся тут хітра Стасюк, а стары далей гаварыў:

— А можа ты жаніцца, сынку, хочаш? Аўдоля яшчэ ў дзеўках сядзіць, на цябе чакаючы. Мы з мацерай бараніць ужо ня будзем . . .

Сказаў, і на сына паглядзеў, здаволены, што за старое адкупіцца можа. Але Стасюк скрывіўся толькі й плячыма паціснуў.

— Дзіўны ты, бацька. Ня буду-ж я зь нейкай вясковай клемпай жаніцца. Хай яе трасца з Аўдоляй. За мяне цяпер машыністага або кандуктара дачка выйсьці можа. Хадзі лепш — паравоз табе пакажу.

Зашчымела тут ад радасьці Сымона, што сын такім разумнікам стаўся. Аж патакнуў яму, здаволены. І пайшлі яны паравоз аглядаць.

Недалёка ад іх той паравоз і знаходзіўся. Пад парай ужо стаяў, у далёкую дарогу нарыхтаваны. Абыйшлі яны яго навокал. А Стасюк усю мэханіку старому тлумачыць пачаў.

— Вось тутака вада й вугаль знайходзіцца... У гэтай будцы мы езьдзім... А гэта кацёл — ваду грэе й пару робіць, бо парай гэтую быдляку цягне.

Падзівіўся Сымон. Патыліцу пачухаў:

— Добрая штука, — кажа. — Вось, каб яе ў керат прыпрэгчы. Толькі брэшаш ты, сынку, што параю гэтую падлюгу цягне. Ня дам веры ніколі! Вось, як маці гатаваць пачне, дык пара аж вокнамі валіць. А ў хаце — каб хоць што зь месца кранулася. Чартоўскія гэта штукі, ня пара.

Глянуў на яго сын і засьмяяўся.

— Дзіўны ты, бацька, — запраўдны яшчэ мужык. Гэта-ж усё мэханіка й толькі. Фізыка, мабыць, такая ёсьць.

Пачаў ён перад бацкам усю мэханіку тлумачыць, а пасьля й кажа:

— Пакуль няма машыністага, адпачынь сабе ў будцы. А я тымчасам колы смараваць кончу.

Завёў бацьку ў паравоз, а сам ізноў колы алівай падліваць пайшоў. Пачаў Сымон на паравозе разглядацца. Бачыць—печ дзіўная, зялезнымі дзьвярыма зачыненая. А вагонь у ёй бушуе, што аж да яго чутно. Вада нейкая ў шкляной трубачцы пераліваецца, булькоча. Гадзіньнікі дзіўныя прымацаваныя. І стрэлкі на іх ува ўсе бакі лётаюць... А ўсё сіпіць, бурліць, пераліваецца.

Падыйшоў Сымон бліжэй. Каб на ўсё гэта дзіва глянуць...

— Бачыш, — тлумачыў сабе, — якая хвізыка. Не збрахаў Стасюк, запраўды гэта мусіць тая мэханіка ёсьць.

I хацеў ужо назад адыйсьці. Але дало ліха за нейкую ручку ўзяцца. Чорт мусіць напутаў, ня йнакш. Толькі як засычыць тут, як застогне паравоз. Крутануў ён у страху яшчэ мацней. I зусім бяда выйшла. Пара коламі валіць пачала. Зь месца паравоз крануўся. Да вакна кінуўся Сымон — значыцца, каб сына на ратунак звацьІ зноў мусіць нейкую гадзюку зачапіў, толькі як ні кінецца паравоз, як ні пачне наперад рваць, ну, горш, як ад каня, калі панасіць пачне.

Учапіўся Сымон за вакно. I аж усё ў ім задрыжэла. Бачыць, сын на месцы застаўся.

Хацеў Стасюк за паравоз учапіцца, але зачапіўся за рэйку й носам зямлю зарыў; шчасьце яшчэ, што пад колы не папаў. Схапіўся пасьля й за паравозам пачаў бегчы. Але не здагнаў ужо. Рвануўся наперад паравоз і поўнай парай пагнаў.

Пачаў тут Сымон па паравозе лётаць. Затрымаць яго маніўся. Хапіўся за нейкую ручку. Але засіпела толькі, заенчыла. Пара сычэць пачала... Зусім спалохаўся Сымон. Кінуў яе і за другую, што над ім вісела, схапіўся. Зараз і яе пусьціў, бо сьвіст страшэнны разьнёсься. I так войстры, што ўсё нутро ў Сымона прабіла.

Лётаў так Сымон, а ў галаве думкі чорныя, як птушкі, мітусіліся. «Усё прапала, — заскавытаў у сэрцы, — трасца гэта, а ня хвізыка.» Ізноў да вакна кінуўся, выскачыць хацеў.

Залязгалі тут рэйкі пад коламі, затросься на стрэлках паравоз і замігала ў вачох у Сымона. Схапіўся ён за вакно. Так і прырос да яго. «Як сьмерць, дык хай ужо на месцы» — заенчыў і яшчэ шчыльней да вакна прытуліўся. Быццам тое

дзіця да маці. Вачыма, поўнымі страху, бачыў, як уцякалі перад ім вагоны, сыгналы, будынкі... ды ўжо на месцы застаўся.

Пабачылі чыгуначнікі, што сталася, і страшэнную паніку на станцыі паднялі. Пачалі ўсе крычаць ды лётаць. Ведама, няшчасьце — паравоз зь няспрактыкаваным ездаком уцёк. Стрэлачнікі ледзь галоў не пагубілі. Пераставілі стрэлкі й пусьцілі паравоз на галоўны тор гнацца.

— Хай яго трасца, — казалі, — хай да другой станцыі прэцца. А там сабе й разьбіцца можа.

Зараз і тэлеграмы на ўсе станцыі па дратох пабеглі... Даць, маўляў, вольную дарогу. Паравоз з мужыком-дурніцам з станцыі сарваўся.

Як шалёны, рваў паравоз. Толькі ў вачох Сымону мігала і ў галаве шумела. Хапіўся ён за вакно. І стаяў, як пень у лесе.

А навокал лета прыгожае стаяла. Ліпы поўным цьветам расьцьвілі. Ад каляровых лугоў біў ап'яняючы пах сьвежай травы й красак. Цяжкімі хвалямі калыхалася жыта. На прыдарожных палосах пастушкі кароў пасьлі. Крычэлі яны нешта й шапкамі Сымону махалі. А ён стаяў дзікі, спалоханы, і безнадзейнымі вачыма ўпіваўся ў імкнучыя контуры краявіду. Як разгорнутыя на ветры палотнішчы, трапяталі думкі... Ішоў-бы цяпер полем сярод каласістага жыта. Ногі па косткі западалі-б у сьвежую, пахучую зямлю. Цяжка хіліліся-б жоўтыя каласы. Ды дало-ж ліха на гэтую гадзюку ўзьлезьці.

— Хвізыка... хвізыка... — прысьпешаным рытмам злосна лязгалі колы, у дробныя кускі рвалі сумныя думкі Сымона.

Пранёсься гэтак Сымон 15 вёрст. І пачалі йзноў рэйкі пад коламі мацней лязгаць. А вагоны замігалі, што навет у вачох пачырванела. На другую станцыю, значыцца, Сымон прыехаў.

Сабраўся народ на станцыі. Рукамі й хустачкамі пачалі Сымону махаць... Важная асоба едзе... Ведама, дзіва такое.

А Сымон праймчаўся ўсю станцыю й на тор выехаў. Ізноў перад ім палеткі замігалі. І дрэвы нейдзе ў даль уцякаць пачалі...

Так ізноў да аднае станцыі прыехаў. Пачаў паравоз на станцыю заяжджаць. Аж бачыць Сымон — прэцца ягоны паравоз на вагоны. Зашчымела яму ў сэрцы й вочы зачыніў. Каб сьмерці, значыцца, ня бачыць. Але разьмінуў паравоз вагоны й далей папёрся. Усходы дарога вольная была.

Выехаў паравоз із станцыі, і ўздыхнуў лягчэй Сымон. Мабыць таму, што з праклятымі вагонамі разьмінуўся.

Ня доўга, аднак, супачыў Сымон. Ужо да канца такі паганы дзень выдаўся. Глянуў ён наперад — і аж у мазгох пахаладзела. Цэлы цягнік яму насустрэч пёрся. Упаў тады на калені Сымон і маліцца пачаў. Вось, падумаў, дзе мяне сьмерць-матухна прыгалубіла. А тут як затрашчыць, як забразгае! Сьвіст толькі й вецер пайшоў. Аж шапку ў Сымона сарвала... І далей той цягнік суседнім торам паймчаўся.

Зашмат ужо, мусіць, на Сымона выпала. Самлеў, бядак, і застаўся сярод паравозу, як калода, ляжаць.

А паравоз праехаў яшчэ пару станцыяў і затрымаўся сам сярод поля. Пара, значыцца,

выйшла, бо Сымон вугальля ў печ ня сыпаў. Толькі таму й затрымаўся паравоз.

Пачалі тады дзьве суседнія станцыі праз тэлефон сварыцца:

— Дзе гэты мужык, што на паравозе едзе? Чаго вы, чэрці, затрымваеце? Ужо мы й дарогу прачысьцілі.

— Выехаў ад нас, — закрычэла другая. Ужо даўно на вашу станцыю папёрся. Чакайце, прыедзе, калі яму пары стане.

Пасварыліся яны, а пасьля пастанавілі брыгаду чыгуначнікаў выслаць, каб даведацца, што й як.

Прыехала гэтая брыгада й знайшла паравоз. Сярод поля, бяз пары, ён стаяў, халодны, як той нябожчык, што ў труну кладуць. Выцягнулі Сымона з паравозу й на траву палажылі. Чорны ён увесь быў. Пачалі яны яго вадой абліваць. І гарэлкай на'т напаілі.

Ачухаўся, нарэшце, чалавек, вачыма па ўсіх павёў, і пра нейкую хвізыку марматаць пачаў. Наляцеў тут на яго нейкі начальнік із крыкам:

— Што ты, сабачае рыла, вытвараеш?! Усю дарогу запаскудзіў, плюгавец! Цягнікоў празь цябе пусьціць ня можна! Як трахну цябе ў зубы, дык і хвізыка вухам выскачыць. У крымінал цябе запакую.

І так раскрычэўся, што аж іншыя супакойваць яго пачалі.

— Сэрца ты ня маеш, — казалі. — Шмат ён і так страху наеўся. Паглядзі, як ён выглядае — зусім дурным зрабіўся. І толку ніякага не разьбярэш. Шкада чалавека й толькі.

Паглядзеў на Сымона той начальнік, падумаў нешта.

— Хай і так будзе, — сказаў. — Бо й запраўды зь ім толку не даб'ешся.

А пасьля й зусім зьмякчэў і да Сымона зьвярнуўся:

— Сядай, дзядзька, з намі. Давязу цябе да станцыі, дзе твой сын працуе.

Злажыў тут рукі Сымон, у вялікім страху прасіць пачаў:

— Даруйце, паночку, але не магу ўжо. Нячыстая сіла, гэтая хвізыка. Зусім чартоўская дарога выпала. Дазвольце пехатой да хаты пайсьці.

І пайшоў, як стаяў, бяз шапкі, торбу праз плечы перавесіўшы. Жахнуўся крыху, як ад тору адыходзіў. Але як узыйшоў на дарогу, дык і перарадзіўся. Адразу вальней дыхаць пачаў, і жаласьць нейкая дзіўная за сэрца схапіла. На зямлю кінуўся й цалаваць пачаў. Дарожны пясок, як малое дзіця, праз пальцы сыпаў. А пасьля боты зьдзеў, на плечы павесіў і пайшоў сьцежкай сярод пахкага жыта.

Зь нястрыманай радасьцяй адчуваньня стаўляў пэўныя крокі на цьвярдую, пахкую зямлю.

А ў душы штось пяяла, пераlівалася.

На другі толькі тыдзень Сымон да хаты вярнуўся. Аступілі яго ўсе, пыталі, што ды як. Нічога казаць не хацеў і ў хаце зачыніўся. Толькі за пару дзён з хаты выйшаў.

— Нічога, — казаў, — ёсьць такая хвізыка. На колах езьдзіць і вагоны цягае. Пара гэта

ўсё, мабыць, мэханіка такая. Зусім няхітрая штука. Адразу я зь ёй справіўся й больш за сотню вёрст праскакаў. Але пехатой лепш хадзіць. Прынамся так ня лязгае й смуроду няма.

Выслухалі яго суседзі, падзівіліся. А хутка на ўсё гэтае здарэньне й забыліся, бо ўжо й да сенаваньня рыхтавацца трэба было.

І толькі Стасюка Сырамяку з чыгункі вытурылі за тое, што паравоз без апекі пакінуў.

С. ПАЛЕСКІ

# Жанімства

Кажуць, лёгка жаніцца ў маладосьці. А калі ўжо сігане за трыццаць, дык такі вокунь на абы-якую прынаду ня ідзець. Калі-ж часам памылкова і зачэпіцца, дык можа так страпянуцца, што аж вудзілны паляцяць.

Даўно яшчэ лятуцеў Захар Тычка аб жанімсьцьве. Задаволена часам уяўляў ён сабе сямейную ідылію: прачнешся раніцою, пацягнешся і зноў вочы заплюшчыш — асалода! А тут чуеш — прымус шуміць, ды скварка пішчыць на патэльні. Устанеш — і каўнерык сьвежанькі, і гальштук вясёлкай пераліваецца; штаны адпрасаваныя, як дудачкі. Асалода! Але боязна: наляціш на якую-небудзь хлуду, дык так зацугеліць, што і пляшкі піва ня вып'еш; дай ёй сукенку, дай ёй панчохі, павуцінку, разьвязкі, завязкі, падвязкі розныя. Сядзе на карак і вязі, упінайся, галубок, каб аж пастронкі трашчэлі. У пастку гэтую папасьціся ня цяжка. Паглядзіш — стан пагінасты, ногі-бутэлечкі, рухавая; зірнеш — душа захліпаецца. Але характар — паль-

ца ў рот не кладзі. Ну, і зыйдзіся з такою! Зьесьць ,як іржа зялеза.

Надоечы Захар Тычка пазнаёміўся з аднэй Гэлькаю. Вочы, як вугольчыкі, чорныя, вусны — вішні сьпелыя; косы даўгія, кужэльныя, залацістымі хвалямі зьвісаюць да плеч (і на завіўку даваць ня трэба). А характар, ведаеце, хоць заўлоньне кладзі. Здавалася, усё добра, але... нос люлечкай, а на носе барадаўка, а на барадаўцы валасок. Вось і жаніся з гэткаю! Сябры засьмяюць. Ды хіба ён, Захар Тычка, ня можа знайсьці дзяўчыну без барадаўкі і валаскоў у непатрэбным месцы? «Але не, лепш ужо адзінота, — меркаваў Тычка, — бачыў я надоечы машыну ў кіне — уваткнуў адзін самотны ў вадтуліну лусту хлеба і масла крыху, а за часіну — бутэрброт вылятае. Штаны пад сяньнікам прасаваць буду, ад шкарпэтак зусім адмоўлюся; куплю жаночныя панчохі і абутковае пытаньне разьвязанае: пратрэцца дзірачка — падцягну ніжэй, яшчэ адна — яшчэ ніжэй. Так, маўляў, і дацягну да канца вайны, а там — Бог бацька». Але-ж гэта толькі меркаваньні, панчошная філязофія, а жыцьцё — справа сур'ёзная: нахмурыць бровы і глядзіць на цябе, у які бок павернеш.

Мінулае начы Захар Тычка сьніў сон. Толькі гэта ён прыкархнуў — і бачыць: ляжыць зь ім чарнявая прыгажуньня, ды валасы ягоныя пальцамі перабірае, галубіць, вуснамі вішнёвымі да шчакі прытулілася. Прачнуўся небарака — і ніякай прыгажуньні, а звычайная падушка. Праўда, ня зусім звычайная: навалка брудная, ды пер'е ўцякае праз дзірачкі. «Эх, жыцьцё маё

дзіркаватае, — развaжае Тычка, — а заткнуць гэтую дзірку можна толькі жанімствам. Годзе! Жаніцца! Толькі жаніцца!»

Нарэшце небараку так узяло, што ён быў гатовы жаніцца із сьнегавой бабаю.

А тут яшчэ сусед жару падсыпае: «Ну, — кажа, — і дзяўчына ў мяне ёсьць, Хвэською завецца, кроў з малаком; стан пагінасты, грудзі крамяныя; як усьміхнецца — дрыжыкі прабіраюць. А гаспадыня-ж яна! Божухна мой! Усё папрасавана, пакрухмалена; фіраначкі, каптурчыкі, гара падушак у столь упіраецца».

Ня мог дачакацца Тычка наступнага вечару. «Што-ж там за фрыкадэлька», — думаў ён. Хто-б там ня быў, а жаніцца наважыў Тычка неадкладна.

Першае спатканьне з Хвэською зьдзейсьнілася ў суседа. Тычка прыйшоў на паўгадзіны раней. Ён нэрвова пахаджаў, падыходзіў да люстра і напяваў сабе пад нос нейкі рамансік. Неўзабаве ўвайшла і Хвэська. Захар шляхотна прывітаўся і ўважліва акінуў яе спрактываваным вокам. Ён далікатна падцягнуў блакітны ў бубачку гальштук, сьціснуў у зубох пазаліхвацку сплюшчаную папяроску і прапанаваў Хвэсьцы месца на канапе. Дзяўчына яна, праўда, гаваркая і, відаць, кемлівая: зразу на шыю не павесіцца. Тычку-ж гэта не турбавала; галоўнае, каб яму спадабалася, а мэтодыка наступу ў яго распрацаваная дасканальна, ніякая цытадэля ня ўстоіць.

Усё добра: і стан пагінасты, і грудзі крамяныя, але... вока прыплюснутае. Сядзіць яна на канапе і міргае гэтым самым вокам. Хто яго

там разьбярэ — ці яна Тычку на канапу просіць, ці гэта фізыялёгічная канечнасьць якая. Якбы яно ня было, але Тычка нахмурыўся і задумённа бразгаў пальцамі па стале, нешта бурчэў. Ён часта ўставаў з месца, падыходзіў да люстра і прылізваў непаслухмяныя валасы. Нарэшце шапнуў гаспадару на вуха:

— Усё добра, але вока, вока, даражэнькі. . .

— Якое вока? — схамянуўся сусед, — што ты трындзіш, чалавеча?

— Прыплюснутае вока, ведаеш, сядзіць і павекамі лопае. Брак! Ня дай, Божухна, яшчэ адно прыплюшчыцца — давай, Захар, кіёчак, кайстру на плечы і пушчай у сьвет.

— Што ты чаўпеш, Захар? Учора вока запарушыла. Ганарыся, што ўдачу маеш, гэта, брат, матар'ял!

На твары ў Тычкі заварушылася ўсьмешка задаволенасьці. Нездарма кажуць, што адчувальны чалавек падобны да сасулькі: прыгрэй яго, ён растае. Ён ужо сядзеў побач із Хвэськаю на канапе і пускаў колцы белага дыму. Але раптам схамянуўся чалавек: «Не, навет прыплюшчанае вока мог-бы даравацъ, але пакаробленых, ды яшчэ пажаўцелых зубоў — ня зношу».

Тымчасам гутарка ішла далей, бо спрактыкаваны стары самотнік не падаваў выгляду. Хутка ён разьвітаўся з Хвэськаю і, відаць, толькі для ветлівасьці запрасіў яе да сябе.

Гаспадар злосна плюнуў яму наўздагон і закруціў у шматок паперы паўжмені самасейкі: «Так і згінеш, сьмярдзючы самотнік! Вока пры-

плюснутае, зубы пакаробленыя; сам ужо пакаробіўся і сплюшчыўся, як стары грыб! Валацуга! чарвівы абібок!»

У Хвэсьчынай-жа галаве роем кружыліся думкі. — «Запрасіў — пайду, — думала яна, — чалавек халаднаваты, але ў кажным сэрцы хаваецца хоць маленькая іскрачка каханьня із яе можна раздзьмухаць сэнсацыйны пажар; патрэбны толькі спрыт, жаночая кемлівасьць».

Пра свае запросіны Тычка ўспомніў толькі тады, калі пачуў незнаёмы баязьлівы стук у дзьверы. — Прыйшла! Захар адчыніў дзьверы і аслупянеў ад нечаканасьці. Ён ня ведаў, што сказаць, у які бок павярнуць? Хвэська-ж, не чакаючы запросінаў, села на скрыпучым крэсьле і, упіраючыся нагамі ў падлогу, каб не зваліцца, разглядала Тычкаву гасподу. Ён-жа ці ад зьбянтэжанасьці, ці з хванабэрства глядзеў у газэту і зрэдку перакідаўся з Хвэськаю словамі. Яна, праўда, чакала зусім накшага прыйма.

Неўзабаве-ж Захар заварушыўся. Ён паставіў на стол пляшку мутное жыжкі (можна было меркаваць, што гэта гарэлка), дастаў із скрынкі пісьмовага стала кавалак цьвілое кілбасы і адламаную лусту хлеба — гэта і было пачаткам «прыязьні».

Раніцою Тычка ня памятаў сваіх учарайшых абяцанак, але, відаць, штосьці абяцяў, бо, апрануўшы боты і паліто, колькі разоў напамінаў аб позьнім часе, але Хвэська ляжала на ложку тварам да сьцяны, як камяк. Нарэшце нэрвовым голасам зьвярнуўся да яе: «Ці ня час на працу, ужо віднее».

— Ключ схаваю, дзе прасіў; ідзі, мой галубок, ідзі, угледзімся, — адказала, бы праз сон Хвэська.

— Што я нарабіў? Божухна — бацюхна, — паціскаў плячыма Тычка, — «мой галубок» — гэта-ж ужо нешта занадта блізкае!

Захар халодным потам абліўся. Злосна бразнуўшы дзьвярыма, ён выляцеў на вуліцу; спрабаваў выпрастацца, каб ісьці роўнаю хадою, але нешта згінала яго да зямлі. Сэрца ў камячак сьціскалася, і безнадзейныя думкі кружылі ў галаве.

— Не, даражэнькая, закукуеш ты шэраю зязюляй сумным гукам у бары, — цешыў сябе Тычка, — у маё кубельца трэба птушка з пер'ем. Усеж-такі я бухгальтар і магу так збалянсаваць, што пальца ня ўткнеш...

Хвэська-ж гэтым часам пазяхала на ложку і, каб ведала Захаравы думкі, дык, напэўна, сказала-б: «Будзеш ты, мой Тычка, ад гэтага дня тыкаць так, як я загадаю; твая песенька адсьпяваная; дэбэт, крэдыт, а сальдо ў кішэню, мой саколік!»

Шчасьце, кажуць, падобна да кулі, якая падкатваецца: сяньня да аднаго, заўтра да другога. Але стары самотнік нагадвае сабой ня кулю, а хутчэй камень, які можна ўзварушыць зялезным ломам, або жаночым умельствам. Гэта добра ведала Хвэська, і таму, пакуль Захар зьвярнуўся з працы, яна, як мурашка, цягала ў ягоную кватэру каптурчыкі, фіраначкі, падушкі, сарвэткі, кілімчыкі розныя. Пакуль Захар зьвярнуўся, на вокнах ужо віселі бялюткія фіранкі, з густам растаўленая ўся мэбля, а на

ложку ўзвышалася сьнегавая гара пульхных падушак.

Гэта ўжо, як бачыце, ня прынада, а старанна зробленая сетка, з якое ня толькі вокунь, а навет хітры шчупак ня вылузьнецца. Так, ня вылузнецца. Увечары Тычка адчыніў дзьверы і... аслупянеў. Акругленымі, як у труса, вачыма, ён утаропіўся на ложак; потым перавёў страшны дапытлівы позірк на Хвэську і нешта марматаў. Заміж шапкі, у зьбянтэжанасьці скінуў адзін бот і стаяў ля парогу, як жабрак. Засьмягла сэрца, пацямнела ў ваччу...

Жанімства. Эх, жанімства...

# Незабаром виходять:

Російською мовою:

1) *Тургенев:* «Собака»

2) *Осокин:* «Растеньице» («Побеги»)

3) *Озерова:* «Советская девушка рассказывает»

4) *Музиченко:* «Как Вы поживаете?»

Українською мовою:

1) *Стороженко:* «Закоханий чорт»

2) *Сошенко:* «Терниста стежка»

Білоруською мовою:

1) *Міцкевич:* «Свистун»

2) *Суров:* «Немецкая медицина борется с заразными бактериями человечества»

Вид-во іноземними мовами — Пляуен, у Фоґтль.